


Роля настаўніка у грамадскім жыцці



Магістраль тураш ўскіх мегаватаў



Пажар

13. X. — 13. XI. — ДНІ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ І НАВУКІ



# СІБІРСКАЕ СУЗОР'Е

У трыццатых гадах у мове савецкіх эканамістаў , географаў, разведвальнікаў з'явіўся новы выраз — «праблема АЕ», «камплекс АЕ». Гутарка ішла аб шляхах апанавання незлічонымі прыроднымі багаццямі Сібіры, аб індустрыяльным пераутварэнні краіны. Забяспечваць энергіяй праектаваныя грандыёзныя мерапрыемствы прапанавалася ад каскада гідраэлектрастанцый на рэках Ангары і Енісеі (АіЕ). Смелая задума стала ў нашы дні бягучай справай.

Ангара і Енісей могуць даць у год да 230 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі. Запланавана пабудаваць шэсць электрастанцый на Ангары і пяць на Енісеі, агульнай магутнасцю прыкладна ў 45 мільёнаў кілават. Восем з гэтых электрастанцый — найбольшыя ў свеце. Цудоўнае сузор'е!

Першай з зорак была Іркуцкая ГЭС — ля вытоку Ангары. Другой заззяла паказаная на здымку славутая Брацкая ГЭС, наймагутнейшая ў свеце. На Енісеі будуецца Краснаярская ГЭС. А не так даўно першыя групы будаўнікоў спусціліся ад Брацкай ГЭС ніжэй па рацэ, да створу новай ангарскай электрастанцыі — Усць-Ільмінскай.

Непрыпадкова сёлета ў нас, у святкаваннях Дзён савецкай культуры і навукі ганаровае месца займае Сібір, краіна вялікіх магчымасцей.

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (400) | ГОД VIII | 27 КАСТРЫЧНІКА | ЦАНА 60 ГР

# РОЛЯ НАСТАЎНІКА
# Ў ГРАМАДСКІМ ЖЫЦЦІ

XIII Пленум ЦК ПАРП прыняў пастановы аб пашырэнні і ўзмацненні ідэалагічнай працы сярод шырокіх мас. У пастановах многа месца адводзіцца выхаваўчай рабоце школы, настаўнікаў. У іх гаворыцца, што рашаючым звяном у сістэме выхавання моладзі, фармавання свядомасці і сацыялістычных асноў з'яўляецца школа. Гэтыя словы нашай партыі абавязваюць нас, настаўнікаў, да яшчэ больш напружанай выхаваўчай працы як у школе, так і ў сваім асяроддзі.

У сувязі з набліжаючымся пленумам Галоўнага Праўлення БГКТ, які распрацуе напрамкі дзейнасці ў святле XIII Пленума ЦК ПАРП, я хачу ўзяць слова ў распачаўшайся дыскусіі на старонках «Нівы» аб ролі настаўніка на вёсцы, аб яго працы ў жыцці БГКТ. Хачу расказаць аб грамадскай дзейнасці настаўнікаў у вёсцы Кленікі ў Гайнаўскім павеце.

Наша пастаянная задача — выхоўваць у дзяцей самыя лепшыя якасці, перадаць ім як найбольш ведаў, дапамагчы ім авалодаць літаратурнай мовай, як польскай, так беларускай.

Апрача нялёгкай выхаваўчай працы ў школе кленіцкія настаўнікі шырока выходзяць насустрач грамадскай працы ў сваім асяроддзі (маю тут на думцы існуючыя на вёсцы арганізацыі, у тым ліку і БГКТ).

Настаўнікі ў Кленіках былі ініцыятарамі мастацкай самадзейнасці, якая ў асноўным абапіраецца на беларускі рэпертуар. Беларускі рэпертуар прывівае любоў да роднага слова, да роднай мовы. Але з рэпертуарам, з добрым рэпертуарам справа не зусёды такая простая. Шмат яшчэ ёсць малавартасных твораў. І вось тут адно з заданняў настаўнікаў: дапамагчы моладзі выбраць, падказаць такія п'есы і песні, якія маюць выхаваўчае ўздзеянне на гледачоў.

У апошні час наш драмгурток ставіў п'есы «Гора чубатае», «На ўскраіне сяла» і іншыя. Гэтыя пастаноўкі маюць шмат выхаваўчых акцэнтаў. Яны вучаць калектывізму, добрым адносінам паміж людзьмі. Пасля пастановак бываюць дыскусіі, абмяркоўкі тых ці іншых учынкаў паасобных персанажаў. А колькі выхаваўчых элементаў знаходзіцца ў добра падабраных песнях, якія выконваюцца нашымі самадзейнікамі! І напэўна нішто так, як песня, не аб'ядноўвае людзей, не павялічвае іх духоўныя багацці.

Вялікая заслуга настаўнікаў і ў тым, што яны разбудзілі ў моладзі імкненне да ведаў. Кленіцкая моладзь вучыцца ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, авалодвае патрэбнымі ведамі. Узначальвае гэту школу Васіль Міхноўскі. Ён таксама з'яўляецца старшынёй гуртка ЗМВ. А члены БГКТ з'яўляюцца адначасова і членамі ЗМВ. І тут зноў уплыў і роля настаўнікаў даволі значныя.

У Кленіках вялікай папулярнасцю карыстаецца спартыўная арганізацыя ЛьЗС. Яна аб'ядноўвае ўсю вясковую інтэлігенцыю і ўсю моладзь. І дзеецца гэта ў асноўным таму, што гэтай арганізацыяй кіруюць настаўнікі.

(Працяг на стар. 3)

# БАГАЦЦЕ ПЯНЬКОЎ

Пянькі, невялічкая вёска пад Міхаловам, у Беластоцкім павеце. З вонкавага выгляду зусім не выдзяляецца сярод другіх вёсак. Вузкая вулічка. Дамы ў прысаддзі. Агародчыкі. Летняй раніцай на панадворках сакочуць куры. Вечарам жыхароў вёскі ўкладае да сну канцэрт жаб, якія задамавіліся на балоцістых сенажацях, што з усіх бакоў абкружылі вёску. Вёска на ўзгорку, быццам на астраўку.

Людзі, быццам гарманізуючы з акружаючай прыродай, жылі тут ціха, спакойна. Кожны капаўся ў сваёй гаспадарцы. Жыў сваім маленькім светам, замкнутым у 5—7 ці 12 гектарах зямлі. Пянькоўцы ў пераважнай большасці сераднякі. Не сказаць, каб жылі бедна, але і нікому спецыяльна не пералівалася. Так жылі яшчэ 4—5 год таму назад.

Перамены ў вёсцы пачаліся з таго часу, калі на панадворак Янкі Азяблы заехаў першы трактар.

Пянькоўцы маюць шмат сенажацяў. На агульную колькасць звыш 600 гектараў зямельных угоддзяў, палова — гэта сенажаці. Але ў большай частцы яны былі не выкарыстаны. Дрыгвяністыя балоты, на якіх калі і расла дык у найлепшым выпадку разуха. Пры такіх сенажацях перазімаваць гаспадару адну — дзве кароўкі нялёгка. Добрых надояў малака таксама не спадзявайся.

Вёска вырашыла, што неабходна меліярацыя. Чакаць, пакуль дзяржава правядзе меліярацыю, задоўга. Пачалі сваімі сіламі. Але «Зэтары», якія мае сельгасгурток, лёгкія на ворыва балота. Пянькоўскія трактарысты на чале з Мар'янам Пяскоўскім — людзі з галовамі. Яны размантавалі заднія колы ў адным трактары і далучылі да другога. Такім чынам узмацнілі цягу трактара, і з прычыны пашырэння плошчы пад падвойнымі коламі трактар не грэзне і не буксуе нават у самым дрыгвяністым месцы. Зараз у Пяньках трэцяя частка балот ужо змеліяравана і загаспадаравана. Тут расце высакаякасная трава.

Гэта стварыла магчымасці Пянькам значна павялічыць жывёлагадоўлю. Тыя гаспадары, якія 2—3 гады таму назад трымалі па адной кароўцы, зараз трымаюць

(Працяг на стар. 4)

 



Дзяўчаты з Паўлаў не толькі самі прыгожыя, але яны таксама прыгожа спяваюць.

# З жыцця БГКТ

# САМАДЗЕЙНІКІ З ПАЎЛАЎ У БЕЛАСТОКУ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ўдачна і вынаходліва распачаў свой сёлеташні асенні сезон дзейнасці. 28 верасня праўленне аддзела запрасіла да сябе ў госці самадзейнікаў з вёскі Паўлы ў Бельскім павеце. Паўлаўскія самадзейнікі выступілі з багатай і цікавай праграмай, якая складалася з дзвюх частак. Першую частку запоўніла п'еса «Мікітаў лапаць». Тут асабліва вылучыўся сваім натуральным і непасрэдным захаваннем на сцэне Лёня Харытанюк, які выконваў ролю Мікіты. Яго паяўленню спадарожнічаў шчыры смех гледачоў.

У другую частку праграмы паўлаўскіх самадзейнікаў увайшлі песні, вершы, анекдоты. Тым разам найбольшае прызнанне ў гледачоў заваявалі Аня Філіпюк, Люба Сахарчук і зноў Лёня Харытанюк за выдатнае выкананне папулярнай рускай песні «Вочы чорныя». Цэлай праграмай спраўна і цікава кіраваў настаўнік Сяргей Філіпюк.

Вёска Паўлы для Сяргея Філіпюка з'яўляецца роднай вёскай. Пасля навукі вярнуўся ён на бацькаўшчыну і стаў у Паўлах вучыць дзяцей. Гэта яму шмат дапамагло ў тым, каб знайсці супольную мову з моладдзю. Разам са сваёй жонкай настаўніцай Аняй Філіпюк пры актыўным супрацоўніцтве другіх настаўнікаў арганізавалі яны ў Паўлах гурток мастацкай самадзейнасці. Пад іх кіраўніцтвам гурток заваяваў першынства ў павятовым аглядзе, а вось цяпер меў гонар выступіць у Беластоку.

Цяпер, пасля рамонту, глядзельная зала у памяшканні Галоўнага Праўлення БГКТ выдатна прыстасавана для сцэнічных выступленняў. Пахваліць варта гарадскі аддзел, які намераны адпаведна выкарыстаць спрыяльныя ўмовы. Самадзейнікі з Паўлаў распачалі цэлы цыкл падобных гасцінных мастацкіх пастановак, якія будуць сістэматычна даваць у Беластоку вясковыя гурткі мастацкай самадзейнасці. Спадзяемся толькі ад праўлення гарадскога аддзела, што на другі раз больш старанна паклапоціцца, каб крэслы не сумавалі па гледачах. Нават тады, калі ўваход бясплатны, неабходна выкарыстаць усе даступныя сродкі, каб паведаміць як мага найбольшую колькасць беластачан.

вр.

«Очи чёрные, очи жгучие..» — плыве папулярная руская песня. Выконваюцье Люба Сахарчук (злева), Лёня Харытанюк і Аня Філіпюк.



Выпускніца беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім Валя Петручук ўсхвалявана чытае «Баладу пра партызана». Валя вырашыла стаць інжынерам-аграномам. Яна цяпер ужо студэнтка Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Ольштыне.

(Працяг са стар. 1)

# РОЛЯ НАСТАЎНІКА Ў ГРАМАДСКІМ ЖЫЦЦІ

Як нідзе, у нашай вёсцы многа спартсменаў. Больш 20 дзяўчат актыўна працуе ў спартыўнай арганізацыі. Дзяўчаты - спартсменкі дабіліся значных поспехаў. Яны часта удзельнічаюць у баскетбольных сустрэчах. Жаночая баскетбольная каманда выязджала летам на ваяводскую спартакіяду ў Алецка. Добрымі поспехамі можа пахваліцца і валейбольная каманда мужчын. Яна залічваецца ў клас Б.

У Кленіках вельмі вялікае зацікаўленне спортам. На спартыўныя гульні збіраецца шмат гледачоў. Тут людзі карысна і цікава праводзяць свой вольны час.

Трэба адзначыць і тое, што сакратаром грамадскага камітэта ПАРП з'яўляецца таксама настаўнік — кіраўнік сямікласнай школы Эдуард Лясота. Сваімі адносінамі да працы настаўнікаў у розных арганізацыях ён спрыяльна ўздзейнічае на іх актыўнасць і ініцыятыўнасць. Дзякуючы настаўнікам усе існуючыя арганізацыі ў Кленіках супрацоўнічаюць паміж сабой. І таму выхаваўчы ўплыў усіх арганізацый у вёсцы даволі вялікі.

Падкрэсліваючы добрыя бакі ў дзейнасці ўсіх гэтых арганізацый, я гэтым зусім не хачу сказаць, што ў нас усё ідэальна. Не. У нас ёсць свае турботы і свае цяжкасці. Але галоўнае, што настаўнікі супольна з моладдзю і ўсімі жыхарамі Кленік пераадольваюць іх.

На заканчэнне свайго выступлення хачу яшчэ раз сказаць, што настаўнікі, калі яны захочуць, могуць аказаць беларускаму таварыству велізарную дапамогу ў кіраванні мастацкімі калектывамі, у падборцы належнага рэпертуару, у выхоўванні любві да роднай мовы, літаратуры і традыцыі. Варта таксама, каб БГКТ больш увагі ўдзяляла спорту на вёсцы, каб навязала супрацоўніцтва са спартыўнай арганізацыяй ЛьЗС. Бо спорт хутка аб'ядноўвае людзей. У гэтым я асабіста пераканаўся, працуючы ў Кленіках.

**А. ЗАКРОЙШЧЫК**

Кленікі



«Дарагое Сэрцайка! Я яшчэ малады і хачу ажаніцца...», — чытае Сяргей Філіпюк. Канферанс у яго выкананні шчыра забаўляў гледачоў.

таў, а потым над галавой Аскера пранёсся, зніжаючыся, ахоплены полымем вялікі самалёт...

Аскер сціснуў рукамі скроні. Двойчы намагаўся ён устаць, але ў раненай назе пачынаў пульсаваць такі боль, што ён траціў прытомнасць.

Вось Аскер зноў адкрыў вочы, прыслухаўся. Было ціха. Краёчак неба быў пакрыты празрыстай жаўцізнай. Набліжалася світанне. Колькі ж цяпер? Гадзін чатыры. Відавочна, каля гэтага. Значыць, хутка канец аперацыі...

Яшчэ некалькі мінут заняў адпачынак. Праклятая слабасць, няўжо гэта вынік адной толькі раны ў сцягне? Аскер спрабаваў рушыць хворай нагой. Яна здрантвела. Побач валяўся нож Торпа. Аскер падняў яго і распароў клешню. Аглядзеў рану — шырокую рваную. Крануўся яе. З раны палілася кроў. Ён зразумеў: нож Торпа трапіў у нейкі вялікі сасуд, страчана шмат крыві. Таму і слабасць.

Аскер зняў рамень, заматаў ім нагу вышэй раны, заціснуў моцна. У вачах пацямнела ад болю, але кроў перастала цячы.

Яшчэ мінута на адпачынак. Ён успомніў аб пісталеце Торпа. Ага, вось і пісталет — ляжыць з боку. Аскер падняў яго, аглядзеў, сунуў у кабуру, стаў ракам, абаперся на здаровую нагу, выпрастаўся. Яго гайданула ад слабасці, ён зноў упаў.

Праз пэўны час ён паўтарыў спробу. На гэты раз удалося паставіць хворую нагу на зямлю і не ўпасці. Балансуючы рукамі, Аскер зрабіў крок здаровай нагой, падцягнуў хворую, зноў шагнуў.

290

Ён разумеў: рухаючыся так, яму і за суткі не дабрацца да аэрадрома. Ён разумеў і тое, што не пазней чым праз паўгадзіны апошнія самалёты забяруць апошні груз, апошніх дэсантнікаў і паднімуцца ў паветра.

Краёчак неба на ўсходзе зрабіўся ружовым. Адтуль пацягнула вецярком. Потым вецер сціх. Аскер злавіў шум матораў. І вось ужо над галавой разведчыка праплыла на ўсход група цяжкіх самалётаў.

— Апошнія, — прашаптаў Аскер.

Ён зрабіў наперад яшчэ крок, яшчэ два ці тры крокі, з енкам апусціўся на зямлю, закрыў вочы. Так, цяпер усё. Жыць засталося — гадзіны, магчыма мінуты. Калі ў паветры варожыя знішчальнікі, то да аэрадрома, зразумела, спяшаюць і часці наземных войск. Першы ж аўтамабіль, які праедзе па гэтай шашы, наткнецца на машыны, на цела Торпа. Пачнуцца пошукі, і тады канец.

Ён абапёрся аб зямлю далонямі, падняў галаву. Немагчыма прымірыцца з думкай аб смерці, калі здаецца — усё жыццё спераду. Жыццё! А што ён ведае аб жыцці? Шмат — і нічога. Яму ж і трыццаці не споўнілася!.. Самі сабою пацяклі па твары слёзы. Ён плакаў.

Час ішоў. Ён заціх. Потым падняў галаву, прыслухаўся. Пачуўся нейкі гук. Аўтамабіль? Відавочна.

Абдзіраючы калені аб асфальт, ён споўз у прыдарожны роў, выняў пісталет.

Гук стаў больш выразны. І дзіўна — Аскер адчуў, што раўней пачало біцца сэрца, праяснела ў галаве. Ён прыпадняўся над ровам. Рукі яго, якія ўпіраліся ў край дарогі, адчулі што зямля лёгенька ўздрыгвае. Ён прылажыў да яе вуха, выразна пачуў аддалены бразгат метала. Сумненняў не было — ішоў танк. Танк ці танкі.

291

Аскер учапіўся рукамі ў вонкавы склон рова, падцягнуў, памагаючы здаровай нагой, цела. Так, добра... Цяпер — паўзці!

Уціскаючы локці ў рыхлы, падатлівы грунт, яшчаркай скручваючыся паміж баразнаў і купін, ён аддаляўся прэч ад дарогі. Раненай нагі ён ужо не адчуваў: боль аддаваўся вышэй, у плячах, у затылку, у скронях — па ім нібы кувалдамі малацілі. Хутчэй, хутчэй!..

Ён згубіў адчуванне часу. Нешта, што было мацнейшае за яго самога, гнала наперад. Ці была гэта трэніраваная воля байца? — Ці — магутны інстынкт жыцця? Хто ведае! Хутчэй за ўсё — і тое і другое.

Бразгат танкавых гусеніц наблізіўся, стаў аглушаюча моцным. І — абарваўся. Калі б Аскер падняў галаву, убачыў бы спыніўшуюся стальную бэстыю, ззаду яе — два грузавікі з салдатамі. Але ён ляжаў ніцма ў неглыбокай лагчынцы, паўмёртвы ад перанесенага напружання і болю.

Салдаты павыскоквалі з грузавікоў, падбеглі да машын, якія загарадзілі шашу. Люк танка адкрыўся, паказаўся афіцэр.

(Працяг на стар. 4)

292



 

# Вочы гаспадара глядзяць на школу

Ці школа, вось, напрыклад, у Малінніках, існуе і патрэбна толькі для дзяцей, каб навучыць іх чытаць і пісаць?

Некалькі дадзеных аб уплыве і ўздзеянні гэтай школы не толькі на дзяцей: ужо былі арганізаваны тры курсы для д а р о с л ы х, якія не мелі закончаных 7 класаў. Іх закончыла каля 70 асоб. Пераважна моладзь. Але на мінулагоднім курсе сярод 30-ці асоб было 15 старэйшых — больш мужчын, гаспадароў вёскі. Жанчынам заўсёды цяжэй, вясковым асабліва. З тым большай прыемнасцю пішу прозвішчы Лены Баршчэўскай і Марыі Іванюк з Маліннік — жанчын з сем'ямі, якія аднак вучыліся і здалі экзамены пачатковай адукацыі.

Некаторым, аказваецца, мала сямі класаў (зусім правільна). Ідуць вучыцца далей. Тут асабліва шырокая дарога для маладых. Міраслаў Кадлубоўскі з Маліннік пасля вячэрніх курсаў у вёсцы закончыў яшчэ агародную школу ў Супраслі.

СПР пры Малінніцкай школе закончыла каля 50-ці асоб. 5 з іх вучыцца далей у сельскагаспадарчых тэхнікумах.

Новы і энергічны кіраўнік Малінніцкай школы Сцяпан Бурыла паведамляе, што і ў гэтым годзе, ужо недзе ад лістапада, будзе працаваць новы вячэрні курс з праграмай класаў 5—7. Напрамак на тое, каб у Малінніках і навакольных вёсках не застаўся ніводзен чалавек без пачатковай адукацыі.

Сакрэт вялікага ўплыву і добрай славы Малінніцкай школы знойдзем у яе прыстасаванні да жыцця і патрэб вёскі. Уласныя вопытныя агародчыкі, саджэнне дрэў, вырошчванне кветак, хоць прымітыўныя, але ўсё ж-такі майстэрні — усё гэта вельмі зближае школу да жыцця і да вёскі.

Пляценне кошыкаў (мо' каму і сарамлівае), а вучняў у Малінніках вучаць гэтай умеласці іменна настаўнікі. Дарэчы, сам кіраўнік умее плясці добрыя кошыкі. Усё гэта вельмі важна.

Школай у Малінніках ад мінулага году апякуецца Насенная цэнтраля ў Бельску. Школа ўжо бясплатна атрымала ад Цэнтралі аўтобус для паездкі ў Беластоцкі тэатр на пастаноўку «У пустыні і пушчы».

А новыя планы: атрымаць ад Цэнтралі адборнае насенне траў і залажыць пры школе вопытны ўчастак вырошчвання траў. Маліннікі маюць змеліяраваныя лугі, і гаспадары вельмі зацікаўлены, каб сеяць добрыя травы і збіраць багаты ўраджай сена. Гэта залог жывёлагадоўлі і, што за тым ідзе, добрых даходаў. А школа? Школа, як бачым, мудра працягвае сваю руку дапамогі. Навука — гэта жыццё, а не толькі наадварот.

**Вера Леўчук**

# БАГАЦЦЕ ПЯНЬКОЎ

(Працяг са стар. 1)

па 5—6 дойных кароў. Малачарню Пянькі маюць пад бокам, у Міхалове. Таму з давозам малака няма клопату. Даход з продажу яго ў кожнага гаспадара вялікі. Ёсць такія сяляне ў Пяньках, якія штомесяц за малако атрымоўваюць да 2—3 тысяч злотых.

З торфу, які здабываецца ў час меліярацыі, пянькоўцы як звычай робяць кампастовыя кучы. Перамешваюць яго з гноем і вывозяць на поле. Такім чынам яны напалову павысілі ўраджаі і пачалі вырошчваць і контрактаваць прамысловыя расліны. Напрыклад, рапак. Гэта вельмі даходная расліна. За адзін цэнтнер кантрактаванага рапаку дзяржава плаціць 800 злотых. З аднаго гектара атрымаць 15 цэнтнераў рапаку няцяжка. А ў Пяньках сёлета некаторыя закантрактавалі па 2—3 гектары і атрымалі ўраджай каля 20-ці цэнтнераў з гектара.

Але найбольшы даход тут дае кантрактацыя ракіты, т. зв. віхліны. Вырошчваць яе пачалі пянькоўцы гадоў 6 таму назад. Былі гэта толькі пачаткі. Масава пачалі вырошчваць віхліну тады, калі пачаў працаваць сельгасгурток і на палях запыхцелі гурткоўскія трактары. Большасць з сельскагаспадарчых прац у Пяньках механізавана. Зараз у гуртку ёсць тры трактары з камплектамі сельгасмашын, абмалотачныя агрэгаты, бульбакапалка. Але віхліна патрабуе яшчэ шмат фізічнай працы чалавека. Калі яна вырасце і даспее, вяршкі віхліны зжынаюць сярпамі. Праца даволі марудная, але за адзін цэнтнер насення віхліны, залічанай у першы гатунак, дзяржава плаціць 8 тысяч злотых З аднаго гектара віхліны можна сабраць звыш 5-ці цэнтнераў насення. Назавіце мне іншую расліну, якая на плошчы аднаго гектара дала б больш 40 тысяч даходу? Значыць, праца вартая заходу. Тым больш, што пасля зжынкі вяршкоў трактарная касілка выкошвае рэшту як высакаякасную траву. Карысць падвойная.

У Пяньках людзі, якія да сельскай гаспадаркі падыходзяць з розумам. Таму і працы, звязаныя з віхлінай яны ўжо патрапілі ў большасці механізаваць. Яе зараз абмалочваюць сваім агрэгатам, адпаведна да гэтага прыстасаваным (даўней абмалочвалі прачамі). Апрача гэтага гурток нядаўна купіў букоўнік, які сам ачышчае насенне так, што пры адпаведным доглядзе можа быць залічана ў першы гатунак. Віхліна сталася папулярнай у гаспадарцы вёскі. Некаторыя, як, напрыклад, Янка Слёнзак, вырошчваюць яе на плошчы 3-х гектараў.

Дзякуючы разумнаму гаспадараванню за апошнія гады тут рэзка павысілася даходнасць кожнай гаспадаркі. Возьмем хаця б за прыклад тыповую тут 7-мігектаровую гаспадарку Янкі Азяблы, старшыні пянькоўскага сельгасгуртка. Азябла гадуе 5 дойных кароў. З продажу малака ён кожны месяц у сярэднім атрымоўвае каля 2-х тысяч злотых. Сёлета Азябла закантрактаваў паўтара гектара віхліны. Атрымаў ураджай насення — 8 цэнтнераў. Пры здачы залічана яно ў другі гатунак, г.зн. па 7.300 зл. за цэнтнер. Разам — 58.400 злотых. Азябла сёлета закантрактаваў паўтара гектара рапаку. Атрымаў яго 22 цэнтнеры. Цэнтнер каштуе 800 злотых. Разам — 17.600 злотых. Да гэтага ж яшчэ даходзяць такія традыцыйныя расліны, як жыта, авёс, бульба, агароднiна і іншыя. Падлічыце, калі ласка, які гадавы даход складзе 7-мігектаровая гаспадарка.

Думаю, што каментарыі тут не патрэбны. Варта толькі падкрэсліць, што ўсяму гэтаму даў пачатак сельгасгурток, усё большая механізацыя палявых работ.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**



**На здымку: Янка Азябла (з хлебам) у ролі старасты сёлетшніх ваяводскіх дажынак на беластоцкім гарадскім стадыёне.**

**фота В. Рудчык**

(Працяг са стар. 3)

— Што там? — спытаў ён.

Яфрэйтар, які схіліўся над целам Торпа, падняў галаву.

— Цывільны.

— Жывы?

— Ужо астыў.

— Адсуньце ўбок. Падбярэм, калі будзем вяртацца.

Люк захлопнуўся. Салдаты адцягнулі труп на край шашы, селі ў машыны. Танк устрасянуўся, рушыў наперад, абыйшоў аўтамабілі і рынуўся на ўсход. Грузавікі ехалі следам.

Прайшло некалькі мінут, пакуль Аскер аддыхаўся і змог падняць галаву. Грукат танкаў заміраў удалечыні. Затым змоўк. На раўніку зноў лягла цішыня. І раптам там, дзе скрыўся танк, пачуліся ўзрывы, глухія выстралы. Потым усё сціхла. Аскер ляжаў не рухаючыся і баяўся думаць аб тым, што магло здарыцца там, на ўсходзе. Вось ён падняў галаву. Гарызонт ужо пачырванеў. І на гэтым фоне на шашы з'явіўся пункт. Ён рос. Неўзабаве стала ясна: набліжаўся матацыкл.

Матацыкл падляцеў да аўтамабіляў, затармазіў. Вадзіцель саскочыў з сядла, палажыў машыну набок, кінуўся да цела Торпа. Аскер падняў пісталет. Рука не слухалася, мушка скакала па спіне матацыкліста, які — схіліўся над забітым. Чалавек выпраставаўся, павярнуўся. Аскер заенчыў, выпусціў зброю.

Перцаў падскочыў, упаў побач.

— Гавары, — прашаптаў Аскер.

— Вывезлі!

— Упіц?

— Уцёк...

— Не злавіў! — Аскер заенчыў. — Танк... Гэта вы яго?

— Дэсантнікі. Сустрэлі, як трэба. Ля аэрадрома яшчэ тры гараць. Па другіх дарогах ішлі. Нашых шмат набілі. З паветра, кулямётамі. І два самалёты спалілі, гады!.. Вось і цябе... Сядзець ззаду зможаш?

Аскер кіўнуў.

— З ног збіўся, расшукваючы цябе, — спяшаючыся гаварыў Перцаў, усаджваючы Аскера на другое сядло.

— Куды?

— Чакае самалёт.

— Ты затрымаў?

— Загадаў генерал Лыкаў.

Перцаў сеў за руль. Матацыкл ірвануўся наперад.

КАНЕЦ.

**УВАГА,**

**ЧЫТАЧЫ НАШЫХ АПОВЕСЦЕЙ!**

# НОВАЯ АПОВЕСЦЬ «НІВЫ»

У гэтым нумары заканчваем друк аповесці Аляксандра Насібава «Тайна Эльбы». Аповесць спадабалася чытачам. У шматлікіх лістах у рэдакцыю яны выказвалі сваё захапленне подзвігамі савецкага разведчыка Аскера, турбаваліся яго далейшым лёсам, не маглі дачакацца наступнага адрэзка (тут заўсёды ішлі закіды ў бок рэдакцыі, маўляў, замала друкуем, трэба большымі кавалкамі). Нам зразумелы цікавасць і патрабаванні чытачоў. Апошняя вайна, нягледзячы на шматлікую літаратуру, усё выклікае да сябе вялікае зацікаўленне. Яна ж прайшла па жывым целе нашай краіны, у кожнай сям'і пакінула за сабой той ці іншы след. І кожная новая рэч аб ёй памагае глыбей разабрацца ў тайнах яе, пашырае нашыя веды аб змаганнях чалавецтва.

Ідучы насустрач пажаданням нашых чытачоў, мы прапануем іх увазе аповесць Васіля Ардамацкага «Сатурн». У ёй аўтар раскажа аб подзвігу савецкага разведчыка — чэкіста, якому было даручана прасачыцца ў дзейнічаючы на Усходнім фронце галоўны цэнтр нямецкай ваеннай разведкі (абвер) і паралізаваць яго шпіёнска-дыверсійную работу. Створаны шэфам абвера адміралам Канарысам і зашыфраваны пад назвай «Сатурн» гэты разведвальны цэнтр павінен быў садзейнічаць вермахту ў захапленні Масквы. Аповесць поўна драматызму і вострых сітуацый. Аўтар карыстаўся дакументальнымі матэрыяламі з архіваў камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР.

Ці зможам друкаваць большымі «кавалкамі»? Не заўсёды на гэта дазваляе іншы матэрыял газеты. У «Ніве» не так ужо многа старонак. У кожным выпадку, будзем намагацца як найлепш заспакоіць патрабаванні чытачоў.

«Сатурн» пачнем друкаваць ужо ад наступнага нумару. Прыемнага чытання!

 



Дэлегаты грамадскіх арганізацый ідуць з вянкамі да помніка савецкім воінам

# Шляхамі дывізіі ген. Каўпака



Мітынг ля помніка савецкім воінам.

Адзначаючы Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы, Год Беластоцкай Зямлі і 20-годдзе ўзнікнення Народнага Войска Польскага, павятовае праўленне аддзела ЛОК у Сямяцічах арганізавала 6 кастрычніка г.г. рэйд матацыклістаў шляхам партызанскай дывізіі генерала Каўпака. Шлях гэты вёў з вёскі Тонкеле, дзе ў час II сусветнай вайны гітлераўцы замардавалі больш дзесяці тысяч савецкіх ваеннапалонных, праз Гродзіск да Мілейчыц. У Мілейчыцах удзельнікі рэйда прайшлі ля помніка савецкім воінам, дзе адбыўся мітынг з удзелам жыхароў Мілейчыц і аколіцы. На мітынгу з дакладам выступіў сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. У. Плешук



Удзельнікі рэйда.

Тэкст і фота:
**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

# На зубачоўскім гасцінцы

У Баброўцы ад парога святліцы паднялася хмарка вераб'ёў. Уваходжу ў сярэдзіну — адзін. Дзверы, вокны расчыненыя. Быў я тут два гады таму назад — і цяпер са здзіўленнем заўважаю, што нічагуткі не загінула ў гэтай запушчанай будыніне. Тыя самыя пабітыя шыбы (новых не набілі); тыя ж тры аконныя рамы, тыцнутыя за пашчэрбленую печ, адшліфаваны (карцёжніцкімі) рукавамі стол, дзве даўжэзныя лавы, а на брудным франтоне сцяны дзяржаўны герб ды крыж на покуце. Бабраўчане на свой спосаб сумленны народ...

Адсюль да вёскі Зубачы рукой падаць, на пяць мінут дарогі пяшком (200—300 м). А там аматарскі гурток слаўны, і заязджаюць туды слаўныя госці — паэты, дзеячы культуры. Аднак турбуе зубачоўскіх людзей адно: у іх няма святліцы, калі не лічыць пахілай школы, пабудаванай яшчэ ў царскую эпоху. Здавалася б, саюз паміж малою Баброўкаю і вялікімі Зубачамі немінуемы. Ды не! Адны да другіх не ходзяць, адны з другімі стараюцца не сустракацца на забавах. Прычына? Ніхто гэтай прычыны не можа толкам растлумачыць. Проста, традыцыя ды і годзе.

Энергічныя Зубачы задыхаюцца ад цеснаты, а малюткая Баброўка пазваляе сабе на люксус згнаіць добрую святліцу. Маўляў, сам не гам і другому не дам! (Пане солтыс, злітуйцеся і пастарайцеся хаця які-небудзь замок на дзверы грамадскага будынка).

Выбраўшыся з пясчанай зубачоўскай вуліцы на цвёрды гасцінец, момант адпачываю. Вёска здалася мне пустынным аазісам пасярод лысых пагоркаў. Хтосьці калісьці прабаваў тут у адным канцы ўкласці брук. Пясчаныя ручаі памалу засыпаюць яго зусім і фурманкі гразнуць гэтак сама, як усюды. А ў даліне перамычка была. Кажу, была. Засталася з яе клубавіна патрэсканых жэрдак, павіснутых па-над стромкім раўчуком. Прызнацца, спадзяваўся напаткаць у гэтым месцы часткі ад разбітых матацыклаў і веласіпедаў. Чагосьці такога не ўбачыў: перамычку аб'язджаюць дугою цераз гразкую балаціну. Зрэшты, часцей ездзяць у напрамку Клюковіч або Чаромхі. Шкада, бо не далей пяці кіламетраў знаходзіцца Вулька Нурэцкая, а ў ёй людзі дружныя на дзіва. Рассталіся яны камення на брук — налева, пакрай хат ляжаць доўгія кубаметры, пазначаныя вапнаю.

Святліца ў Вульцы Нурэцкай не лепшая ад баброўскай. Была не лепшаю. А цяпер — го, го! Сямяцічы павятовыя заплакалі б ад зайздрасці... Ашалёваная, пакрытая, з цэлымі шыбамі, а ўнутры каляровыя клёшы, модныя фіранкі, настраёвая заслона, сцэна, алейная аддзелка, кавярняны камплект... нехапае толькі паркетнай мазаікі, персідскіх дываноў і... першакласнага тэлевізара за дванаццаць тысяч злотых. Будзе тэлевізар — дзевяць тысяч на яго ўжо назапасілі. Не багатаму дзядзьку пахвалу пісаць трэба, але працавітым рукам Валодзі Пытэля, кіраўніка школы Анатоля Мартыновіча, Ваські Мушкатэля, Васіля Кусачука і іх сябрам. Днямі — начамі працавалі, дадавалі ахвоты другім. Ніхто ім за гэта не заплаціў нат' абкусанага грашака. Такі ўчынак афіцыяльна называюць чынам. Іначай гаворачы, бескарыслівая дзейнасць для дабра ўсае вёскі, аколіцы.

Запрасіце, бабраўчане, да сябе суседзяў. Яны раскажуць вам аб многім — падрабязна. Здраджу іх сакрэт: хочуць закласці парк вакол святліцы — з алеямі, клумбамі, лаўкамі (не лавамі). Хочуць цікава жыць, без нуды і забітасці.

У Вульцы не адно «дзіва» пачуеш. Напрыклад, гаспадар Сцяпан Шостак асабіста дбае аб тым, каб рэгулярна плаціць складчыны на будову школ.

— Што ж тут дзіўнага? — запытаеце.

Сцяпан Шостак бяздзетны. А ў суседняй Тымянцы Уладзімір Ляшук рашыўся не пасылаць вучыцца далей у горад сына, каб толькі не плаціць паўтысячнага недабору за пару год у складчынах на будову школ. Вось які адзін і які другі гаспадары. Адзін і другі не бедны, і не багаты. Адзін памагае другім, а другі не паможа нават свайму сыну!

(ся)

**ЦІ ВЫ ўжо падпісаліся на „НІВУ"?**




Дзень 25 верасня ў прыгранічнай вёсцы Мастаўляны распачаўся як і ўсе іншыя. Як заўсёды, жыхары вёскі паехалі да працы, каму выпала чарга, пагналі быдла і авечак у поле, дзеці пайшлі ў школу, а ўсе астатнія гаспадары са сваімі сем'ямі забралі мяшкі і кашы і паехалі на свае вузкія загоны капаць бульбу. У вёсцы засталіся малыя дзеці, бабулі і дзядулі. Ніхто не спадзяваўся, што ў гэты асенні прыгожы дзень нахлыне няшчасце на Мастаўляны.

Каля стадолы Міколы Хвойкі бестурботна бавілася трое дзяцей. Весела ім было. Яны неаднойчы бачылі, як на полі там-сям асабліва восенню раскладаюць падросткі агонь, і ведалі, што пякуць там у жары бульбу. Гэта ж самае хацелі зрабіць і яны. Знайшлі запалкі і расклалі агонь. Яны не ўяўлялі сабе, чым гэта пагражае. Але калі загуляў агонь, калі сваімі доўгімі чырвонымі языкамі стаў дабірацца да саломы і калі заклубаваўся чорны дым, малыя перапалохаліся і пачалі ўцякаць з месца несвядомага дзіцячага злачынства. Адзін з іх пабег на поле, другі на вуліцу, а чатырохгадовы Вовік са страху ўбег у хату і скуліўся ў куточку. Тым часам агонь ахапіў гумно, перакінуўся на іншыя будынкі і на хату, у якой сядзеў і плакаў маленькі Вовік. Чорны дым хмараю ўзнёсся над вёскаю. З палёў пачалі бегчы людзі.

У школе нехта ўстрывожана крыкнуў: «Пажар». І ўсе дзеці раптоўна закаркавалі дзверы. «Дзеці, вёдры хапайце!» — крыкнула настаўніца Зіна Усціновіч. Але што зробіш вядром вады, дзесяццю вёдрамі, ста вёдрамі! Пакуль іх данясеш ад калодзежа! Тут патрэбны пажарныя помпы, патрэбна многа, многа вады. Тут недалёка яна ёсць. Тут ёсць калодзежы, тут побач рэчка Свіслач. Але ў гэты страшны час усё гэта здавалася вельмі далёка.

Выбухшы пажар устрывожыў пагранічнікаў. Яны звоняць да пажарных ахоў, звяртаюцца да савецкіх пагранічнікаў. Дапамога будзе! Але кожная мінута прыносіць многа знішчэння. Прыбегшыя з поля людзі выносяць рэчы з дамоў і будынкаў. Ахвярна са стыхіяй змагаюцца школьнікі. Яны раскідаюць платы, каб па іх агонь не перакідаўся на хаты, хлявы і на іншыя будынкі, забіраюць ад агню шмат прадметаў. Вучань VII класа Коля Валешчук убягае ў ахопленую агнём хату, каб яшчэ што-небудзь вынесці. Чуе плач. Аглядаецца, шукае і знаходзіць схаваўшагася ў куточак смяртэльна спалоханага і сплаканага Вовіка. Праз акно выносіць яго. Ён ратуе Вовіка ад страшнай смерці, за жыццё якога бацькі аддалі б усё, што толькі маглі, нават гэтыя будынкі, якія знішчае агонь. І Коля Валешчук нават не падазравае сам, што праявіў вялікі гераізм, што адважыўся на свайго роду вялікі подзвіг.

Сямікласнікі Ваня Шэўчук і Коля Ольхін (родам яны са Свіслачан) таксама праяўляюць многа смеласці. Агонь ад іх не болей як дзесяць метраў, але не гледзячы на гэта, яны ўбягаюць у гумно солтыса Дзімітра Мойсея і намагаюцца выцягнуць воз. На жаль не ўдаецца ім. На возе была грэчка і гэта аказалася двум школьнікам не падсілу.

Сярод дарослых людзей таксама вялікая ахвярнасць. Яны выносяць і робяць, што толькі могуць. Вось, напрыклад, школьны сторож дзядзя Аляксей разваліў куратнік і гэтым самым не дапусціў да яго агню. А каб гарэў куратнік, дык тады напэўна агонь дарваўся б ужо да дамоў вёскі. Многа ёсць герояў сярод жыхароў Мастаўлян, якія ратавалі вёску ад разбушаваўшайся стыхіі. Але ці могуць людзі стрымаць агонь без вялікай колькасці вады, без моцнага яе струмення? Не. Вада стала ў гэтыя мінуты даражэй усяго, бо толькі ёю можна ратаваць будынкі. За паўгадзіны пажар ахапіў больш 20-ці будынкаў. Асабліва страшна гарэлі гумны з трэскам спаленага збожжа. Гарэла цяжкая праца паасобных сем'яў. Слёзы ў многіх жанчын, а нават мужчын сыпаліся, як боб, а разгубіўшыеся некаторыя людзі не памяталі нават, што робяць. У гэты бездапаможны стогн, плач і шум стыхіі ўрываецца рокат пажарнай машыны. Едуць пажарнікі са Свіслачан, за імі з Гарадка, а пасля з Ялоўкі. На іх як на выратавальнікаў кіруюцца позіркі мастаўлянцаў. Яшчэ мінута, яшчэ другая і будуць працягнуты шлангі да рэчкі. Пальецца вада на агонь, які хутка знішчае адзін за другім будынкі. Праз некалькі хвілін за ўспомненымі пажарнымі камандамі імчацца машыны з заграніцы, з Савецкай Беларусі. Савецкія людзі дапамагаюць у бядзе польскім сялянам. Гэты факт сам за сябе многа гаворыць. З Гродна пажарную каманду ўзначальвае тав. Северцаў, са Свіслачы тав. Падрэз, а з Вялікай Бераставіцы тав. Курневіч. З імі разам прыехаў начальнік аддзела пажарнай аховы падпалкоўнік Боўдраў і лекар маёр Брагін. Да іх далучаецца 18 савецкіх пагранічнікаў са сваімі прыладамі да гашэння пажару.

Ах, каб хутчэй, каб хутчэй яны падключылі свае шлангі да рэчкі. Але тут прыемная нечаканасць. Савецкія пажарнікі прыехалі са сваёй вадою. І гэта дало ім магчымасць адразу прыступіць да барацьбы са стыхіяй. Незадоўга за савецкімі пажарнікамі прыехала пажарная каманда з Беластока. З месца наладзілася гарманійнае супрацоўніцтва польскіх і савецкіх пажарных каманд. Некалькі гадзін ідзе напружанае змаганне з агнём. Нарэшце ўдаецца стрымаць агонь, удаецца не дазволіць яму перакінуцца ў глыб вёскі. На пажарніках мокрыя нават мундзіры.

А пажар згашаны. Праз нейкі час раз'ехаліся пажарныя каманды. Засталася толькі са Свіслачан на чале з Паўлам Мойсеем. Пажарнікі дзяжурылі ўсю ноч, таму што ў многіх месцах залітыя вадой кучы саломы і абмалочанага збожжа ўспыхвалі вялікім агнём, які зноў пагражаў будынкам.

Не спалі ўсю ноч і многія жыхары вёскі. Яны таксама пільнавалі. А можа дзе іскра, занесеная ветрам у салому, узбудзіць новы пажар! Не было ўпэўненасці. А многім не спалася ад вялікага гора. Гэта ж столькі дабра і працы пайшло з дымам. Агонь знёс з твару зямлі 37 будынкаў, у тым ліку 26 гумнаў і адну хату. Згарэла б уся вёска, каб не пажарныя каманды і каб не было дапамогі савецкіх пажарнікаў, якія ў трагічныя хвіліны аказалі вёсцы ахвярную дапамогу.

У першыя дні пасля пажару пагарэльцы не маглі дайсці да сябе. Спачувалі ім незгарэўшыя. Сесія грамадскай рады нарадовай у Зубках звярнулася да сялян усёй грамады з заклікам, каб людзі матэрыяльна дапамаглі мастаўлянскім пагарэльцам. Арганізаваўся на сесіі камітэт дапамогі пагарэльцам. У вёсках сфармаваліся тройкі па зборцы збожжа. Пры дапамозе сялян і дзяржавы пачнуць зажываць раны няшчаснага выпадку ў прыгранічнай вёсцы Мастаўляны ў Беластоцкім павеце.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**



 



Від на вуліцу імя Кірава.

# ГОРАД НА ЗАХОДНЯЙ ДЗВІНЕ

На ўзгорчатых берагах Заходняй Дзвіны і ўпадаючай у яе ракі Віцьбы шырока раскінуўся Віцебск — горад фабрык і заводаў. Віцебск — адзін з абласных цэнтраў Беларускай ССР. Гэта рачны порт і буйны чыгуначны вузел. Лініі чыгункі, якія праходзяць праз Віцебск, звязваюць паўднёвыя раёны СССР (Украіну) з Ленінградам і Прыбалтыйскімі савецкімі рэспублікамі.

Да Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі Віцебск уяўляў сабою купецка-мяшчанскі горад з нізкім узроўнем культуры і слаба развітай прамысловасцю.

За гады Савецкай улады горад вырас у адзін з буйнейшых індустрыяльных цэнтраў Беларусі. Ужо ў 1939 годзе аб'ём прамысловай прадукцыі Віцебска амаль у тры разы пераўзышоў аб'ём усёй прамысловасці дарэвалюцыйнай Беларусі. Моцна развілося тут станкабудаванне, дрэваапрацоўчая, тэкстыльная, харчавая, швейная і іншыя галіны прамысловасці. У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі разбурылі горад, разграбілі яго маёмасць. Працоўныя Віцебска шмат уклалі сіл і энергіі, каб адбудаваць гаспадарку. Ужо ў 1950 годзе былі ўведзены ў строй усе старыя прамысловыя прадпрыемствы горада. А ў наступныя гады побач са старымі выраслі новыя гіганты індустрыі: буйнейшы ў краіне домабудаўнічы камбінат, завод заточных станкоў і электравымяральных прыбораў, дыванова-плюшавы камбінат, шоўкаткацкая фабрыка і іншыя.

Цяпер прадукцыя віцебскіх прамысловых прадпрыемстваў вядома далёка за межамі Беларусі. Яна ідзе ў Індыю і Афганістан, Аргентыну і Фінляндыю, у краіны народнай дэмакратыі — усяго ў 20 краін свету.

Разам з развіццём прамысловасці расце і прыгажэе сам старажытны горад. Непазнавальна змяніліся яго вуліцы. Яны значна пашырыліся і забудаваны новымі высокімі і светлымі шматпавярховымі дамамі. Толькі за апошнія пяць год у горадзе пабудавана каля 300 тысяч квадратных метраў жыллёвай плошчы. За гэты час наваселле адсвяткавалі амаль 12 тысяч сямей рабочых і служачых. У новыя дамы ўсяліліся металісты і дываншчыкі, домабудаўнікі і трыкатажнікі. Для іх кінатэатры, клубы, бібліятэкі, школы, дзіцячыя і медыцынскія ўстановы, магазіны, кавярні і сталоўкі. Зараз у горадзе працуе тры інстытуты (педагагічны, медыцынскі, ветэрынарны), дзесяць тэхнікумаў, трыццаць дзве сярэднія школы, у тым ліку дзесяць школ рабочай моладзі, працуе філіял Беларускага палітэхнічнага інстытута, у якім вучацца рабочыя без адрыву ад вытворчасці. У Віцебску ёсць восем клубаў, восемдзесят сем бібліятэк, некалькі кінатэатраў, у тым ліку адзін шырокаэкранны, узносіцца новы манументальны будынак драматычнага тэатра.



Помнік-абеліск героям айчыннай вайны 1812 года.

Так, здзяйсняючы гістарычныя рашэнні XXII З'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, працоўныя Віцебска ствараюць матэрыяльныя і духоўныя багацці, неабходныя для канчатковай перамогі камунізма ў савецкай краіне.

А. ПОЗНЯК
рэдактар абласной газеты «Віцебскі рабочы».

**Фота: Д. Прэс**



Беларускі дзяржаўны **драматычны тэатр імя Якуба Коласа.**

# РАЧНЫ КАРАБЕЛЬ ІДЗЕ ПА ЗЯМЛІ!

Незвычайнае відовішча: рачное судна паварочвае да берага, лёгка пераадольвае круты ўздым і па сушы накіроўваецца з хуткасцю да 200 км. у гадзіну да завода, дзе разгружаюць груз.

Такое, скажуць, бывае толькі ў трызненні. А між тым гэта не выдумка. Цяпер Ленінградскі інстытут інжынераў воднага транспарту і іншыя інстытуты паспяхова праектуюць такія караблі. Кожны з іх зможа ўзяць на борт па некалькі сот тон грузу.

Прынцып руху яго па сушы вельмі просты. Пад корпус праз спецыяльныя адтуліны няспынным патокам падаецца сціснутае паветра. Яно ж і «трымае» карабель на вышыні аднаго і нават двух метраў над паверхняй вады або сушы. А ў гэты час рэактыўныя рухавікі штурхаюць судна ўперад па зададзенаму курсу.

**Хто не гарыць, той копціць. Гэта — закон. Хай жыве полымя жыцця!**

**М. Астроўскі** (1904—1936) — вядомы савецкі пісьменнік.




...што ў самай вялікай кветцы ў свеце — рафлезіі арнольдзі, якая расце на востраве Суматра, насенне настолькі малое, што яго немагчыма разгледзець няўзброеным вокам. Сама ж кветка важыць 10 кілаграмаў і мае ў акружнасці каля 2,5 метра.

## ПАВЕТРАНАЕ ТАКСІ

Называецца «Марава». Зрабілі яе чэхаславацкія інжынеры, памяшчае 5 асоб і развівае хуткасць да 360 кіламетраў у гадзіну. Чэхаславацкае паветранае таксі цешыцца шырокай папулярнасцю асабліва ў Савецкім Саюзе, Англіі, Францыі і, зразумела, у самой Чэхаславакіі.

**а — вр**



## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# НА АФРЫКАНСКІМ УЗБЯРЭЖЖЫ

Усюды счарнелы стэп аж па небакрай. На высушанай, як попел, зямлі гібее засохлая трава. Дзе-нідзе рэдкія выспы калючых заraснікоў. Манатоннасць панурага краявіду ажыўляе часамі магутны, адзінокі баабаб, які не мае зялёных лісцяў і таму здаецца мёртвым сухастоем. Пры ім, быццам карлікі, мізэрныя пальмы і акацыі. Гэта сенегальская савана.

Легкавая машына падымае за сабою хмары пылу. Час ад часу відаць зацiхлыя вёсачкі. Заўсёды не больш дванаццаці круглых хат, падобных на стагі, крытыя травою. Ля дарогі сланяецца амаль голы паляўнічы з лукам і стрэламі ў руках. Мабыць, палюе за дзікім трусом, бо іншых звяроў не відаць, апрача гультаяватых сіпаў, якія, як бы з неахвотаю, даюць праехаць. Нат' не распасціраюць сваіх моцных крылаў, каб адляцець убок.

Знаходзімся ў найбольш пустынных раёнах афрыканскай рэспублікі Сенегал. Там, дзе плыве вялікая рака з такой жа назвай, краявід выглядае цалкам іначай. Багацей жывуць людзі і на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна. Будуюць лепшыя хаты, зграбней апранаюцца і смачней ядуць. Падставай іх «дабрабыту» з'яўляюцца рыбы, якіх мноства тут.

Сталіцай Сенегала з'яўляецца 300-тысячны Дакар. Размясціўся ён на вузкім паўвостраве, які ўрэзваецца далёка ў акіян. Дакар вельмі прыгожы горад. Былыя еўрапейскія кварталы, дзе знаходзіцца цяпер сядзіба ўраду і міністэрстваў, захапляюць незвычайнай архітэктурай і навізною.

Які ж іншы свет у суседніх кварталах, званых, Медынай. Тут сярод старых руін можна ўбачыць абы-як пастаўленыя каморкі, накрытыя кругамі патнутай бляхі ад паіржавелых бочак з бензінам. Зрэшты, не ўсе жыхары сталіцы могуць дазволіць сабе нават і на гэткі «камфорт». Многія начуюць пад голым небам, на распасцёртай газеце. Не хочуць варочацца назад, у савану. Баяцца голаду. А ў горадзе ёсць праца, калі не пастаянная, дык, прынамсі, часовая. Заробкі!

Найбольшым скарбам Сенегала з'яўляюцца земляныя арэхі. Можна сказаць, што толькі яны растуць на гэтай страшэнна сухой зямлі. Цiснутае з іх арахісавае масла складае 85% экспарту краіны. Пасля апошняй сусветнай вайны пачалася здабыча фасфарытаў, тытану і баксітаў. Пакуль што размеры прадукцыі невялікія. Неабходны вялікія фінансавыя выдаткі, а Сенегал — бедная краіна.

Спатрэбіцца яшчэ шмат гадоў цяжкіх намаганняў, каб ліквідаваць нясл аўную спадчыну французскага каланіялізма ў гэтай краіне, якая ўсяго тры гады таму назад атрымала незалежнасць.

а-ся

На здымку: Прыгарад Дакара. Набліжаецца поўдзень і ўсё навокал хаваецца ў ценю. Ніхто не працуе. Толькі на адвячорку прыціхае бязлітасная спёка...

Фота — ЦАФ



